

*Жыве Беларусь!*

# БЕЛАРУС

Address:
166-34 Gothic Drive
Jamajca, NY 11432

BIELARUS/Belarusan newspaper in Free World ISSN 1054-9455
Published by the Belarusan American Association, Inc.
bielarus@bazahq.org

№ 580 Травень 2011 г.
Год выданьня 61


## Шаноўныя чытачы!

Травеньскі нумар нашай газэты не так напоўнены палітычнымі падзеямі, як гэта было ў папярэдніх выпусках. Бурныя падзеі палітычнага жыцьця ў Беларусі паволі саступаюць месца эканамічнам праблемам. Увага бальшыні беларускага грамадзтва цяпер скіравана на тое, каб захаваць перад інфляцыяй зароблены цяжкай працаю рублі і перавесьці іх у больш надзейную замежную валюту. Людзі бегаюць па крамах, каб набыць за гэтыя рублі хоць нейкія тавары ці прадукты. Расхваленая ўладамі беларуская эканамічная мадэль трашчыць па ўсіх швах. Расея не сьпяшаецца ратаваць Лукашэнку новымі крэдытамі, а чакае моманту, калі можна скупіць беларускую маёмасьць, а потым і палітычна інкарпараваць нашу краіну ў склад Расеі.

Але, шмат каму зараз не да эканамічных праблемаў. У Беларусі працягваецца расправаа над апазыцыяй, якая мела адвагу аказаць супраціў дыктатару пад час выбарчай кампаніі ў сьнежні 2010 году. Паўсюль ідуць суды, якія толькі умоўна можна так назваць. Найбольш сьвядомая, адукаваная, сумленная патрыятычная моладзь сядзіць сёньня за кратамі ў судах і турмах, плачуць іх родныя і марна шукаюць справядлівасьці і падтрымкі. Лепшыя гады жыцьця гэтай моладзі пакалечаныя, змарнаваныя жорсткай уладаю. А старэйшыя апазыцыянеры мусяць губляць сваё апошняе здароўе ў вязьніцах. Андрэй Саньнікаў, патомны інтэлігент, на шостым дзесятку жыцьця асуджаны на доўгі тэрмін зьняволеньня. Ці мог некалі думаць яго дзед Канстанцін Саньнікаў, што так абыдуцца ў будучыні з яго ным унукам. Імя Канстанціна Саньнікава залатымі літарамі ўпісана ў гісторыю беларускай культуры, як аднаго з заснавальнікаў нацыянальнага беларускага тэатра, Але, як здаецца, пра гэта не ведае толькі адзін чалавек у краіне – Лукашэнка.

Вясна – пара росквіту і надзеі, але сёлетняя вясна ў Беларусі напоўненая трывогаю і прадчуваньнем калапсу. Пытаньне толькі ў тым, ці гэта будзе канец рэжыму, ці суверынітэту Беларусі. У гэтай сытуацыі асаблівая адказнасьць кладзецца на тыя астаткі апазыцыі, якія ацалелі пад час разгрому і хочацца верыць, здолеюць аднавіць свае сілы, каб уплываць на сытуацыю ў вырашальны час.

Сярод беларускай эміграцыі шмат хто назірае за падзеямі на Бацькаўшчыне, хвалюецца і стараецца дапамагчы. Адзін з нашых чытачоў, які не хоча абыякава маўчаць ў гэты час, даслаў нам сваё меркаваньне пад выразным загалоўкам "Набалела!". Запрашаем нашых чытачоў выказваць свае думкі, свае аналізы сытуацыі ў Беларусі, як вы ўспрымаеце падзеі на Радзіме, што вас асабліва хвалюе. Бо нават амэрыканец Віктар не можа спакойна назіраць за праблемамі далёкай ад яго Беларусі і імкнецца па мастацку асэнсаваць сутнасьць дыктатарскага характару Лукашэнкі, яго ныя абразкі мы друкуем у гэтым нумары.

Значную частку газэтных палосаў мы прысьвяцілі нашаму эміграцыйнаму жыцьцю і тэме мастацтва ў рубрыцы Belarus Art. Шмат інфармацыі вы знойдзеце таксама на тэму царкоўнага жыцьця.

*Рэдакцыя*

# Суды ў Беларусі над удзельнікамі падзеяў 19 сьнежня 2010

**Ірына Халіп** прыгаворана да двух гадоў пазбаўленьня волі з адтэрміноўкай пакараньня на два гады, **Павал Севярынец** — да трох гадоў абмежаваньня волі, **Сяргей Марцалеў** — да двух гадоў пазбаўленьня волі з выпрабавальным тэрмінам на два гады.

**Андрэю Саньнікаву** — 5, **Федару Мірзаянаву** — 3, Алегу Гнедчыку — 3,5, **Ільлі Васілевічу** — 3, **Уладзіміру Яроменку** — 3 гады, усім — узмоцненага рэжыму.

**Міколу Статкевічу** — 6 гадоў калёніі ўзмоцненага рэжыму.

**Дзьмітрыю Вусу** — 5 з паловай гадоў калёніі ўзмоцненага рэжыму.

**Аляксандру Класкоўскаму** — 5 гадоў калёніі ўзмоцненага рэжыму.

**Арцёму Грыбкову** — 4 гады пазбаўленьня волі

**Аляксандру Квяткевічу** — 3 з паловай гады калёніі ўзмоцненага рэжыму.

**Дзьмітрыю Буланаву** — 3 гады калёніі ўзмоцненага рэжыму.

**Андрэю Пазьняку** — 2 гады абмежаваньня волі.

Судовыя расправы працягваюцца далей.












## Маці Саньнікава сп. Ала заявіла журналістам:

***«Я ганаруся сваім сынам. Ён перанёс такія пакуты дзеля Беларусі!"***

# Заходнія зубы і беларускі арэх

*(Камэнтар да артыкулу Эдварда Лукаса "У чым Захад памыляецца наконт Беларусі")*

Эдвард Лукас, міжнародны рэдактар уплывовага брытанскага тыднёвіка Economist, зрабіў добрую паслугу беларускай нацыянальнай справе, апублікаваўшы на сайце "Center for European Policy Analysis"свае разважаньні на тэму "У чым Захад памыляецца наконт Беларусі". Зьмешчаны ў перакладзе на сайце радыё "Свабода", артыкул выклікаў гулкае рэха збоку свабодаўскай аўдыторыі. О, калі б падобная масавая рэакцыя прагучэла ад заходніх чытачоў! Але спадзявацца на такое было б вельмі наіўна. Зацікаўленьні замежнае публікі далёкія ад Беларусі, гэтак жа, дарэчы, як далёкія беларусам балячкі другіх эўрапейцаў – ці то гішпанскіх баскаў, што змагаюцца за сваю аўтаномію, ці то грэкаў, што пакутуюць ад сплачваньня свайго непасільнага замежнага доўгу, ці то шмат якіх іншых.

Бурная рэакцыя чытачоў сайту РС на Лукасаў артыкул і верагодная маўклівасьць замежнае чытацкае публікі паказваюць, што пытаньне памылак "наконт Беларусі" актуальнае ня гэтулькі для Захаду, колькі для самых беларусаў. І за дэманстрацыю гэтага факту аўтару артыкула належыцца падзяка – у дадатак да падзякі за папулярызацыю беларускае праблемы сярод замежнікаў.

Эдвард Лукас даволі добра арыентуецца ў завілістым шляху Беларусі да свабаднейшага, лепшага жыцьця ды ў спробах Захаду паспрыяць гэтаму. Але пры аналізе беларускай сытуацыі ў яго працуе халодны інтэлект. У Лукасавых ацэнках няма эмацыянальнага кампанэнту – таго якраз, які прысутнічае (з усёй свёй разнастайнасьцю й разбродам думак) у беларусаў, калі яны выказваюцца пра свае праблемы. Заходні аналітык вельмі дакладна расклаў па палічках тое, што было ўчора. Але з тым, што трэба рабіць сёньня й заўтра, у яго вельмі скупа. Мала таго, ягоныя парады ўжо ў той ці іншай меры рэалізуюцца: і гандаль з Захадам, і студэнты ў заходніх унівэрсытэтах, і санкцыі на беларускіх чыноўнікаў. Пытаньне тут толькі ў акцэнтах на тым ці іншым складніку ў вельмі няпростых дачыненьнях Захаду зь Беларускім Сфінксам.

Аналізаваць падзеі ў іншай краіне й прыпісваць рэцэпты для выхаду з тупіка – справа комплексная. Мала быць начытаным у прэсавых паведамленьнях, камэнтарох, дыпляматычных дэпэшах ды рапартах разьведкі. Хада гісторыі мае ў сабе тонкі, бывае цяжкі замежнікам для выяўленьня, суб'ектыўны элемэнт: эмоцыі, натхнёнасьць ды абумоўленыя гэтым акты самаахвярнасьці, гераізму, якія зьяўляюцца важным фактарам гістарычнага працэсу. Каб усё, што адбываецца ў іншай краіне, належна ацаніць, патрэбнае, у дадатак да інтэлекту, суадчуваньне, эмпатыя – тое, чаго не стае аналітыку-Лукасу. У іншай сваёй слабасьці ён сам сьціпла прызнаецца. Ягоны "змрочны каталёг" памылак Захаду наконт Беларусі, піша ён, пазначаны сьлядамі "заходняга невуцтва, даверлівасьці, самападману, цынізму і эгаізму". І яшчэ. Гаворачы пра нядаўны злачынны выбух у менскім мэтро, ён шчыра заяўляе: "Мы ведаем да прыкрага мала пра сапраўдны зьмест расейска-беларускіх дачыненьняў". А расейскі ж складнік у беларускай галаваломцы – самы што ні ёсьць цэнтральны.

Лукасава самакрытычнае прызнаньне гучыць культурным кантрастам да катэгарычнай слоўнай страляніны (часта падмацаванай абразьлівымі словамі на адрас аўтара артыкулу й іншых апанэнтаў), якая прагучэла ў выказваньнях шмат каго з удзельнікаў абмеркаваньня артыкулу. Як гэта ні сумна, абразьлівая катэгарычнасьць (каб не казаць хамства) у палеміцы сярод свабодаўскіх дыскусантаў паказвае даволі часта свой непрываблівы твар. Дзівіцца тут можа й ня трэба, улічваючы штодзённую вульгарнасьць у выказваньнях самога кіраўніка дзяржавы.

Па прачытаньні Лукасавага аналізу мне прыгадаўся самвыдат савецкіх часоў, у якім было поўна нэгатыўнага (крытыка ўсяго, ад чаго пакутавалі) і вельмі мала канструктыўнага – адказаў на пытаньні "Што рабіць?" "Як абладзіць жыцьцё пановаму?" Адказаў ня было ані ад дысыдэнтаў, ані ад "мудрага" партыйнага кіраўніцтва, калі яно дакацілася да пропасьці. Міхаіл Гарбачоў, што трымаў стырно карабля ў бурным моры, пакінуў па сабе памятны выраз -- "сумбурнасьць у галовах".

У аналізе сучаснае беларускае праблемы ды паказваньні шляху ў будучыню нельга абмінаць маўчаньнем, як гэта зрабіў аўтар "памылак Захаду", фактараў, безь якіх аналіз ня можа быць поўным. А гэта : 1. імпэрскі інстынкт Крамля, 2. роля расейскіх сакрэтных службаў у беларускіх падзеях, і 3. непатольная Лукашэнкава смага й воля асабістай улады, пад якую падпарадкаваны ўсе дзяржаўныя інстытуты.

Сучасныя беларусы "ў вялікай сваёй грамадзе" знаходзяцца на цярністым шляху да свабоды. Ім трэба «дайсьці да Беларусі», як трапна сказаў Ніл Гілевіч у адным із сваіх вершаў. Пры ўсім гвалце, што дзеецца цяпер над людзьмі ў краіне (у тым ліку цяперашнія масавыя суды), гістарычны шлях нацыі не падкантрольны поўнасьцяй ані аднаму гвалтаўніку свабоды, ані цэлай шайцы іх. Гістарычны шлях на даўжэйшым адрэзку часу – гэта вынік агульных намаганьняў як знутра, гэтак і звонку краіны. А вынікі агульных намаганьняў бываюць цалком непрадказальнымі. Распад "непарушнага" Савецкага Саюзу -- пацьверджаньне гэтаму. Таму маюць сэнс акты паасобнага супраціву, заклікі да салідарнасьці, пашырэньне інфармацыі ўнутры краіны й навонкі, пазнаваньне свае гісторыі, абарона нацыянальнай культуры, мовы й да гэтага падобная дзейнасьць. Да катэгорыі такіх дзеяньняў трэба залічыць і артыкул Эдварда Лукаса ды шматлікія водгукі на яго, уключна з выказваньнямі замежных спэцыялістаў. У публікацыі Лукасавых меркаваньняў трэба бачыць пазытыўны факт заваструэньня ў свабодным сьвеце ўвагі да "беларускае праблемы". Памятаю 60-я—70-я гады, калі беларуская справа была татальна нямая ў сьвеце, прыдушаная за глухой жалезнай заслонай. Прамінула сорак гадоў – і які кантраст! На старонках найбольш уплывовай з амэрыканскіх СМІ, газэты "Нью Ёрк Тамс", прыкладам, апошнімі месяцамі зьявіўся добры дзясятак аналітычна-крытычных паведамленьняў! Працэс ідзе. Беларуская дэмакратыя, якую тыран душыць унутры краіны, здабывае папулярнасьць, палітычную падтрымку й матэрыяльную дапамогу ў вонкавым сьвеце. Паспрыяе ўсяму гэтаму й Лукасаў артыкул, за што ягонаму аўтару належыцца вялікая падзяка.

А што да прэсіі на дыктатарскі рэжым у Беларусі, дык думаецца, што санкцыі скіраваныя на як мага шырэйшыя колы прыўладных бюракратаў (пры ўсіх іншых мерапрыёствах, у тым ліку пры аблягчаньні беларусам кантактаў з вонкавым сьветам), павінны заставацца галоўным мэтадам ціску. Кожны чыноўнік рэжыму павінен усьведаміць сабе, што ён асабіста адказны за калябарацыю са злачыннай уладай. Без тэрміну даўнасьці.

*Янка Запруднік*

# Freedom House: Паводле свабоды слова Беларусь – паміж Кубай і Бірмай




У сёлетнім дакладзе аб стане свабоды слова ў сьвеце амэрыканскай праваабарончай арганізацыі "Freedom House" Беларусь знаходзіцца на 190-м месцы, паміж Кубай (189) і Бірмай, якая разам з Эрытрэяй, Лібіяй і Ўзьбекістанам разьдзяляе 191-ае месца.

Усяго ў гэтым рэйтынгу свабоды слова за мінулы год –196 краінаў. На 195-м месцы знаходзіцца Туркменістан, а сьпіс замыкае Паўночная Карэя. Беларусь, паводле праваабаронцаў з "Freedom House" апынулася на 190-ым месцы – на апошніх прыступках рэйтынгу.

Месцы Беларусі ў рэйтынгу свабоды слова ў папярэдніх дакладах Freedom House:

2003 - 183
2004 - 182
2005 - 185
2006 - 185
2007 - 186
2008 - 188
2009 - 188
2010 - 189

*Меркаваньні нашага чытача пра сытуацыю ў Беларусі*

# Набалела

Беларуская трагедыя – гэта не трагедыя, дзе Дрэнны чалавек перамагае Добрых людзей. Беларуская трагедыя – гэта гісторыя перамогі дробных, палахлівых і абыякавых Згоднікаў над сабою і над некалькімі Моцнымі людзьмі. Гэта гісторыя гібелі краіны і культуры, бальшыні насельніцтва якой стала на яе напляваць, а некаторыя нават пачалі знаходзіць у гэтым сваё хваравітае задавальненьне. Інакш і нельга назваць жаданьне атрымліваць радасьць з таго, што паскудзіш ва ўласным доме.

Я лічу, што даўно пара спыніць усё звальваць на Лукашэнку. Пры безумоўнай наяўнасьці культурных і палітычных лідэраў, у нашай краіне не набіраецца той колькасьці людзей, якая гатовая даваць адпор дыктатару усюды і заўсёды. Прапала тая апора, якая прымусіла б суддзю не ісьці супраць свайго сумленьня, а пасадзіць у турму таго, хто прымушае яго да беспадстаўнага зьняволеньня апазыцыянераў. Няма той маральнай асновы, якая не дазволіла б браць у сілавыя структуры жорсткае быдла, бо яны не абараняюць народ, як гэта павінна было б быць па іх абавязку, а зьдзекуюцца над людзьмі і ганарацца сваёй прыналежнасьцю да гэтай антычалавечай і па сутнасьці, антызаконнай сістэмы ўлады.

Прычына ўсіх гэтых судзілішчаў – не толькі Лукашэнка. Прычына – планктон палахлівай мелюзгі, даўно выкінуўшай паняцьце годнасьці і гонару са свайго жыцьця, як непатрэбныя рэчы. Ім зьверху гавораць, як абыходзіцца са сваім сумленьнем – дзе прыціснуць, дзе прыдушыць, дзе не зьвяртаць увагі і яны выканаюць усё, што ад іх запатрабуюць. А калі ўжо суддзі так паступаюць, то што можна казаць пра міліцыю ці, напрыклад, пра каманду на беларускім тэлебачаньні.

Пішу гэтыя радкі і думаю пра тых здраднікаў сумленьня - што прымушае іх абслугоўваць і аблізваць дыктатара? Менавіта дзякуючы такім іх паводзінам і трымаецца рэжым. Паглядзіце, калі на тэлевізіі паказваюць нарады, якія праводзіць Лукашэнка са сваімі падначаленымі. Гэта ж сорам! Сорам для любога мужчыны! Стаяць 50-60 гадовыя дзядзькі, часам добрыя спецыялісты. Лукашэнка іх прапясочвае, як нейкіх недавумкаў. А яны ( тут мяне проста ванітуе) стаяць патупіўшы вочы альбо імітуюць захапленьне патрабаваньнямі ці парадамі “бацькі”, ківаюць галовамі і нешта там запісваюць у свае блакноцікі. Не дай Бог упусьціць крупіцу ісьціны, выказаную ім.

Я разумею, што можа быць і не да месца гаварыць у гэтай сытуацыі пра тое, што мужыкі паводзяць сябе не па-мужчынскі. Зразумела, калі на такім пасяджэньні не вытрымаць і даць зубатычыну так званаму прэзыдэнту, то цябе, магчыма, застрэляць на месцы. Але, але! Чамусьці не хочацца слухаць голас лёгікі і хочацца апладзіраваць першаму Адважнаму, хто дасьць добрую аплявуху за хамства ў свой адрас, якое часта даводзіцца зносіць нават беларускім міністрам. Вось гэта і ёсьць сапраўдная годнасьць, сапраўднае жыцьцё, а не 16- гадовае ліпеньне ў багне.

Трусьлівасьць правіць Беларусьсю!

Чытаю рэпартажы з заляў судоў, з суда над Саньнікавым. Канешне, слова “суд” тут не да месца, гэта проста расправа. Але, хто яе ажыцьцяўляе? Кучка дробных беспазваночных людзішак, драбнота, якая пнецца выстаўляць сябе за абаронцаў закону, а па факту вяршыць беззаконьне, не думаючы пра тое, што за гэта давядзецца адказваць.

Амаральнасьць, безадказнасьць, халуйства сталі нормаю жыцьця ў краіне, тупасьць, абмежаванасьць, бескультур’е правяць баль. Усе тыя, хто жывуць сёньня паводле гэтых антычалавечых нормаў і ёсьць сапраўдную апораю рэжыму і нясуць разам з дыктатарам поўную адказнасьць за тое, што адбываецца ў Беларусі.

*Сямён Б.*
*Нью-Ёрк*

## Беларусы пратэставалі на Эўрабачаньні ў Дюссэльдорфе

14 траўня ў Дюссэльдорфе адбыўся фінальны канцэрт фэстывалю Эўрабачаньне. Нягледзячы на тое, што падчас правядзеньня мерапрыемства паліцыя Дюсэльдорфа прыймала надзвычайныя меры бяспекі, быў атрыманы дазвол на правядзеньне пікету ля галоўнага ўваходу прадстаўнікоў СМІ. Беларусы з розных краінаў Эўропы выкарысталі гэта, каб праінфармаваць удзельнікаў і гледачоў фестывалю аб палітычнай сытуацыі на Радзіме.

Актывісты Беларуска-Эўрапейскага Задзіночаньня, якія прынялі ўдзел у акцыі, апранулі белыя кашулі з гербам “Пагоня” і надпісам “Я люблю Беларусь”.

Журналісты эўрапейскіх выданьняў, а таксама жыхары Дюссэльдорфа выказвалі салідарнасьць з палітзьняволенымі ў Беларусі. Паліцэйскія, што ахоўвалі пікетоўцаў, у прыватнай размове выказвалі захапленьне сьмеласьцю беларусаў, якія ня баяцца называць Лукашэнка тэрарыстам нумар 1 альбо эўрапэейскім Бен Ладэнам.




## Імпрэза ў ТБК Летувы

30 красавіка ў памяшканні Таварыства беларускай культуры Літвы мастак Алег Аблажэй прачытаў лекцыю "Труба", у якой былі закрануты пытаньні ўзьнікненя, сутнасьці і будучыні так званага "сучаснага мастацтва". На думку аўтара, і гэта мастацтва, ( якое тады называла сябе "авангардам"), і рэвалюцыйныя бальшавіцкія ідэі аб'ядноўвала на пачатку ХХ ст. тая самая мэта -- разбурэньне старога і стварэньне новага сьвету. Аднак праз пэўны час адбылося іх разьмежаваньне -- бальшавікам патрэбны былі паслухмяныя выканаўцы, агітатары, якія б выказваліся на мове, зразумелай "працоўным масам". Авангардысты ж не зьбіраліся нікому падпарадкоўвацца, а хацелі самі дыктаваць культурную палітыку. У выніку гэты мастацкі рух у СССР быў пастаўлены па-за законам. А Захад, не зьвяртаючы ўвагу на траскучыя антыбуржуазныя лозунгі, проста ўключыў "авангардыстаў" у сваю рынкавую сістэму, у рамках якой такое мастацтва існуе дагэтуль. Пасьля краху камуністычнай ідэалогіі "сучаснае мастацтва" пачало пасьпяховую культурную агрэсію на краіны былога савецкага блоку, дзе мастакі - "авангардысты" ганарыліся сваім "цярновым" вянцом і статусам ахвяры бальшавізму -- не ўзгадваючы, вядома, пра агульныя карані і колішняе сяброўства. На працягу ХХст.і сярод камуністаў, і сярод "сучасных" мастакоў адбывалася несупынная негатыўная селекцыя, і калі напачатку і адны, і другія верылі ў свае ўтапічныя ідэалы --як Ленін, Дзяржынскі, Чычэрын, а ў мастакоў Кандзінскі, Малевіч, Філонаў, -- то пад канец стагоддзя адзіным " ідэалам" у абодвух выпадках стала прага нажывы.

"Сучаснае мастацтва" адкінула не толькі традыцыі, але і ўвогуле ўсё тое, на чым грунтавалася мастацтва ўсіх часоў і народаў -- эстэтыку, прыгажосьць, майстэрства.

І гэта не дазволіць яму мець якую б там ні было перспектыву ў новым стагоддзі. "Сучаснае мастацтва" па сутнасьці сваёй даўно стала (чаго, зрэшты, і не хавае), антымастацтвам, -- і яно рана ці позна накіруецца ўсьлед за сваім духоўным братам камунізмам на сьметнік гісторыі.

*К. Барсучок*
*Вільня*

# Дыктатар А. Лукашэнка вачыма амэрыканца

Гэтыя ўласныя творы даслаў нам у рэдакцыю амэрыканец Віктар, якому таксама баліць сэрца за тое, што адбываецца ў сёньняшняй Беларусі, ён мае шмат сяброў і знаёмых сярод беларусаў.







## Дэвальвацыя адбылася

Нацбанк Беларусі ўсталяваў новы афіцыйны курс беларускага рубля да кошыка валютаў.
Праўленнем Нацыянальнага банка прынятае рашэнне ўсталяваць з 24 мая 2011 г. афіцыйны курс беларускага рубля ў адносінах да даляра ЗША - 4930 беларускіх рублёў за 1 даляр ЗША, афіцыйны курс беларускага рубля ў адносінах да еўра - 6914,82 беларускага рубля за 1 еўра, афіцыйны курс беларускага рубля ў адносінах да расейскага рубля - 173,95 беларускага рубля за 1 расейскі рубель, па стаўленні да іншых замежных валют - зыходзячы з крос-курсаў гэтых замежных валют да даляра ЗША (пастанова ад 23.05.2011 № 188).
Такім чынам, за дзень дэвальвацыя склала 56,3%, з пачатку года - 64,3%.

## МАЗ хочуць купіць да канца году

Расейскі «КАМАЗ», які сумесна з «Растэхналёгіямі» вядзе перамовы па ўваходжаньні ў склад акцыянэраў Менскага аўтамабільнага заводу (МАЗ), разьлічвае да канца году правесьці ацэнку актываў МАЗа і прыняць рашэньне па зьдзелцы.
Прапановы наконт аб'яднаньня МАЗа і КАМАЗа былі накіраваныя беларускаму кіраўніцтву сёлета ў лютым. У траўні адбылося першае пасяджэньне рабочай групы па аб'яднаньні дзьвюх кампаній.
Намесьнік міністра замежных справаў Беларусі Аляксандар Гур'янаў сёньня заявіў, што праца беларускага МАЗа і расейскага КАМАЗа ў адзіным холдынгу будзе выгадней для гэтых кампаній:
«З улікам таго, што мы працуем у Мытным саюзе, стварэньне холдынгу будзе на карысьць».

## Беларусь падрыхтавала праект пагаднення аб продажы 50% акцый ААТ «Белтрансгаз»

Беларусь падрыхтавала праект пагаднення аб продажы прыналежных дзяржаве 50% акцый ААТ «Белтрансгаз».
Пра гэта 24 мая паведаміў журналістам у Менску прадстаўнік аднаго з органаў дзяржкіравання Беларусі, перадае БелаПАН.
Па яго словах, беларускі бок разлічвае падпісаць дакумент у пакеце з пагадненнем аб умовах пастаўкі і транзіту расейскага газу.
У цяперашні час 50% акцый ААТ «Белтрансгаз» належыць расейскай кампаніі «Газпрам», астатнія 50% - беларускай дзяржаве.

## Каля 2 тыс. жыхароў Беларусі пакінулі краіну ад пачатку году

Беларусь пакідаюць прыкладна 8 тыс. чалавек у год, а прыязджаюць на пастаяннае жыхарства – каля 12 тыс. чалавек. Пра гэта паведаміў на брыфінгу 17 травеня ў Менску намесьнік начальніка Дэпартамэнта па грамадзянству і міграцыі МУС Беларусі Віктар Ігнатовіч.

"Нічога не зьмянілася. Гэта прыкладна тыя ж лічбы, што ў 2009 і 2010 гадох… Прыязджаюць у Беларусь на пастаяннае жыхарства пераважна грамадзяне Расеі і краінаў СНД" – паведаміў Ігнатовіч. Па ягоных словах у гэтым годзе на пастаяннае жыхарства ў замежжа выехала каля 2 тыс. грамадзянаў Беларусі.

## Паўстанцы: жонка і дачка Каддафі знаходзяцца ў Беларусі

Тэлеканал лівійскай апазыцыі, які транслюецца з Катару, паведаміў, што па атрыманых імі зьвестках жонка і дачка Муаммара Каддафі знаходзяцца ў Беларусі.

Жонка і дачка лівійскага лідэра Муамара Кадафі не перасякалі беларускую мяжу. Аб гэтым заявіў агенцтву «Інтэрфакс-Захад» прэс-сакратар Дзяржаўнага памежнага камітэта Беларусі Аляксандр Цішчанка: «У базе асобаў, якія перасякаюць беларускую мяжу, дадзеных грамадзянаў няма».

# Постаці

# Паводле правілаў, дзеля народу і веры

*(17 травеня споўнілася 80 гадоў сумнай падзеі, калі ў Маскве памёр Мітрапаліт Мельхісэдэк, праваслаўны царкоўны дзеяч, які спрычыніўся да заснаваньня Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы)*



У гісторыі кожнага народу ёсьць асобы, якія зьдзейсьнілі штосьці вельмі важнае для ўсяе супольнасьці, штосьці такое, што падтрымала годнасьць гэтага народу і сьцьвердзіла ягонае належнае месца ў цывілізаваным сьвеце. Лёсавызначальнасьць іх дзеяў не заўсёды слушна ацэньваецца сучасьнікамі, а нашчадкам часта здаецца, што асоба проста апынулася ў патрэбны час у патрэбным месцы. Аднак бясконцая колькасьць прыкладаў таго, што нейкая асоба апынулася перад складанай сытуацыяй – і ўхілілася ад праблемы або прыняла няправільнае (затое больш лёгкае!) рашэньне, у выніку чаго нацыя страціла дадзены лёсам ці абставінамі шанс для свайго самасьцвярджэньня, толькі больш пераканаўча сьведчаць: нацыянальным героем стаць вельмі складана, патрэбна глыбокая вера ў важнасьць сваёй справы, моцны характар і цьвёрдыя жыцьцёвыя прынцыпы, стойкасьць у іх абароне…

XX-ае стагодзьдзе і барацьба за незалежнасьць Беларусі даюць нам шмат яскравых прыкладаў, шмат слаўных імёнаў. Хтосьці зь іх больш вядомы шырокаму грамадзтву, іншыя сьціпла застаюцца ў цені або ўшаноўваюцца нейкай адной сацыяльнай групай. Вось як праваслаўны Мітрапаліт Беларускі і Менскі Мэлхісэдэк. Чалавек сьціплы і з маленства слабога здароўя, ён выявіў у складаных грамадзка-палітычных варунках нязломную моц духу і разуменьне сваёй адказнасьці перад народам і краінай, што робіць яму гонар і выклікае да яго глыбокую пашану.

Нарадзіўся Міхаіл Паеўскі, будучы Мітрапаліт Мэлхісэдэк, у сям'і сельскага сьвятара Льва Паеўскага ў 1879 годзе (паводле іншых крыніцаў – 1878). Было гэта ў вёсцы Вітуліна Бельскага павету (цяпер – Польшча). Бацька быў прыхільнікам заходне-русізму, то бок пры ўсёй пашане да культурнага і царкоўнага "адзінства" ясна ўсьведамляў адметнасьць сваёй зямлі і тутэйшага люду. Быў да таго ж краязнаўцам, археолягам і пісьменьнікам. Уплыў на фармаваньне сьветапогляду Міхаіла Паеўскага ўсё гэта, несумненна, зрабіла. Вучыўся ён у манастырскай школе, потым у Санкт-Пецярбургскай духоўнай сэмінарыі, адкуль быў пераведзены ў Сымфэропальскую, бо пачаліся праблемы зь лёгкімі. 25 сакавіка 1898 году прыняў манашаскі пострыг. Працягваў адукацыю ў Казанскай духоўнай акадэміі. Пасьля атрыманьня ступені кандыдата багаслоўя (1904) быў накіраваны ў Магілёў. У гэтым горадзе іераманах Мэлхісэдэк быў выкладчыкам духоўнай сэмінарыі, выконваючым абавязкі ігумэна, а неўзабаве ўжо ігумэнам Магілёва-Брацкага Багаяўленскага манастыра і благачынным навакольных – Бялыніцкага, Ахорскага, Аршанскага, Няхлюдаўскага. У студзені 1907 году ў сане архімандрыта ён пераведзены ў Бялыніцкі манастыр, але ўжо ў верасьні па волі царкоўнага кіраўніцтва едзе служыць далей: ігумэнам Хэрсонскага Сьвята-Уладзімірскага манастыра, настаяцелем Праабражэнскага манастыра ў Ноўгарад-Северску Чарнігаўскай губэрні, наглядчыкам Уладыкаўказскага духоўнага вучылішча, рэктарам Тыфліскай духоўнай сэмінарыі. На пасадзе рэктара, між іншага, архімандрыт Мэлхісэдэк выявіў сваё разуменьне ролі мовы ў царкве: ён дазволіў багаслужэньні на грузінскай мове, роднай для пераважнай большасьці сэмінарыстаў, чым выклікаў незадаволенасьць сьвецкіх уладаў.

У 1916 годзе яго выклікаюць у Пецярбург, рукапакладаюць у епіскапы. Ён служыць епіскапам Кранштацкім, потым Ладажскім, вікарыем Петраградскай епархіі, удзельнічае ў Памесным саборы Рускай праваслаўнай царквы 1917 – 1918 гадоў. І вось новае прызначэньне: Менская епархія, Мэлхісэдэк – епіскап Слуцкі, вікарый Менскі. Цяпер, з адлегласьці ў дзясяткі гадоў, можна сказаць, што менавіта з гэтага прызначэньня ў 1918 годзе пачаўся яго крыжова шлях, усё ранейшае было толькі жыцьцёвай прэлюдыяй, падрыхтоўкай.

Уладыка Мэлхісэдэк меў выдатную багаслоўскую адукацыю, валодаў 12 мовамі, быў знаны як прапаведнік, ён глыбока ўваходзіў у праблемы і клопаты падначаленага яму духавенства і нават простых прыхаджанаў, цікавіўся не толькі іх духоўным жыцьцём, але і штодзённым побытам. Час быў вельмі трывожны, і людзі, і царква як цэласнасьць апынуліся на гістарычных вятрах і скрыжаваньнях. Беларуская зямля за кароткі час зьведала нямецкую ды польскую акупацыі, прыход бальшавіцкай улады, якая абвяшчала прывабныя лёзунгі, але ў сапраўднасьці была крывадушнай і жорсткай. Вернікі (не мела значэньня, хрысьціяне яны ці пасьлядоўнікі іншай рэлігіі) вельмі варожа ўспрымаліся рэвалюцыйнымі камісарамі рознага ўзроўню. Бальшавіцкае змаганьне на гэтым "фронце" ішло як бы ў двух кірунках: першы – праз фізычнае вынішчэньне духоўнага саслоўя і найбольш уплывовых прыхаджанаў, праз руйнаваньне царкоўных будынкаў і рабаваньне каштоўнасьцей, а другі кірунак – гэта спрыяньне дзейнасьці "абнаўленцаў", царкоўнікаў, якія ішлі на супрацоўніцтва з уладамі і ламалі традыцыйны лад царкоўнага жыцьця.

Што мог супрацьпаставіць гэтай навале епіскап Мэлхісэдэк?! Толькі сваю веру і духоўную моц. Ён сам вядзе багаслужэньні, выступае з пропаведзямі, кіруе народнымі сьпевамі. Спрабуе весьці перамовы з уладамі. Усімі сваімі сіламі ратуе царкву і людзей. Утварэньне БССР (1 студзеня 1919 году) і пастанова патрыярха Ціхана (18 траўня 1920 году) аб наданьні епархіяльным архірэям права вырашаць на месцах усе царкоўныя справы ў выпадку спыненьня сувязі з цэнтрам далі падставы для абвяшчэньня аўтаноміі Беларускай царквы і выбраньня епіскапа Менскага і Тураўскага Мэлхісэдэка на пасаду Мітрапаліта Беларускага і Менскага. Гэта адбылося 23 ліпеня 1922 году ў Менску, на сходзе ў Петрапаўлаўскім катэдральным саборы прысутнічала ўсё гарадзкое духавенства ды амаль 60 прадстаўнікоў сельскага сьвятарства і вернікаў. Пытаньні аўтакефаліі царквы не былі тады тэмай дыскусій, хоць аўтаномія ёсьць праўдзівым першым крокам да яе. Відаць, гісторыю царквы прысутныя на сходзе добра ведалі. Гэта сёньня можна спаткаць у друку развагі/сумненьні навукоўцаў: ці быў Мэлхісэдэк законным (не саманарачоным) мітрапалітам? Ці не прагнуў ён сілаю адарваць Беларускую царкву ад маці-Расейскай? Дзякуй Богу, здаровы розум перамагае. Спрыяе і той факт, што патрыярх Ціхан, калі выйшаў з турмы ў 1923 годзе, пацьвердзіў свае кананічныя зносіны з Мэлхісэдэкам і дабраславіў яго на бесьперашкодныя багаслужэньні ў праваслаўных храмах Масквы.

У побыце Мэлхісэдэка, новаабранага Мітрапаліта, нічога не зьмянілася. Ён па-ранейшаму вёў аскетычнае жыцьцё, яго даходы былі ніжэй пражытачнага мінімуму, нават савецкая ўлада вызваліла яго ад падаткаў. Усё, што людзі ахвяравалі царкве, ішло на падтрыманьне сем'яў арыштаваных, рэпрэсаваных, бедных і сіротаў. Затое штотыдзень ляцелі ў Маскву "данясеньні" ГПУшнікаў і партыйцаў пра контррэвалюцыйную дзейнасьць Мітрапаліта Мэлхісэдэка. У 1923 годзе ён трапляе пад хатні арышт, у 1924 – пачынаецца крымінальная справа, у 1925 – судовы працэс па ёй. Уладыку і ягоных паплечнікаў абвінавацілі ў масавым утойваньні ад канфіскацыі царкоўных каштоўнасьцей. (Пры тым, што яшчэ ў 1922 годзе ён заклікаў вернікаў да здачы ўсіх царкоўных каштоўнасьцей, акрамя сакральных, чым ўратаваў не адно сьвятарскае жыцьцё.) Судовы працэс цягнуўся сем дзён. І людзі стаялі пад вокнамі судовай залі, маліліся. Абвінавачваньне "ў агітацыі і прапагандзе з мэтай зьвяржэньня савецкай улады", што цягнула за сабою пакараньне ў выглядзе "вышэйшай меры сацыяльнай абароны", то бок – расстрэл, было, на шчасьце, адкінута. Далі тры гады ўмоўна.

*(Заканчэньне на 6-й бачыне)*

# Паводле правілаў, дзеля народу і веры

*(Заканчэньне з 5-й бачыны)*

Аднак ужо праз некалькі месяцаў выклікалі ў Маскву. У Беларусь вярнуцца Мітрапаліту Мэлхісэдэку больш не давялося.

У савецкай сталіцы яго чакаў арышт, Бутырская турма, высылка ў Сібір. На сьпецпасяленьні яму, хвораму на сухоты, даводзілася працаваць у сьвінарніку, выконваць іншыя прыніжальныя працы. Ён быў блізкі да сьмерці… Аднак у траўні 1926 году яго выпусьцілі пад падпіску, каб прынёс пакаяньне перад Мітрапалітам Сергіем (Старагародскім) і склаў зь сябе сан Мітрапаліта Беларускага… Праз год Мітрапаліт Мэлхісэдэк зноў на некалькі месяцаў трапляе ў турму “за выкарыстаньне рэлігійнага настрою масаў у антысавецкіх мэтах”. Мітрапаліт Сергій адпраўляе яго амаль на тры гады ў Енісейскую і Краснаярскую епархію ў сане архіепіскапа. Выкліканы ў Маскву, праз нейкі час Мітрапаліт Мэлхісэдэк раптоўна памірае падчас службы ў Пакроўскім храме. Існуе вэрсія, што гэта было сплянаванае забойства, атручэньне, бо няскораны мітрапаліт, быццам бы, рыхтаваўся выступіць з пропаведзьдзю ў падтрымку антыбальшавіцкага змаганьня. Ішоў травень 1931 года. У маскоўскіх паховінах бралі ўдзел і прадстаўнікі Менскай епархіі.

Імя Мітрапаліта Мэлхісэдэка не забытае ў Беларусі. Мне давялося ўпершыню пачуць спагадлівае слова пра яго ад аднаго старэйшага сьвятара ў пачатку 1990-ых, калі людзі наважыліся больш адкрыта гаварыць пра нядаўнюю мінуўшчыну. У 1996 годзе нарыс “Пакутнік за веру і Бацькаўшчыну” асобнай кніжкай надрукавала гісторык Тацяна Працька. Апошнім часам да асобы Мітрапаліта Мэлхісэдэка прыхільна ставяцца і афіцыйныя беларускія царкоўныя гісторыкі, яны нарэшце прызналі, што ён дзейнічаў слушна, паводле евангельскіх правілаў і ў інтарэсах веры. Гэта дало магчымасьць Беларускаму праваслаўнаму брацтву ў гонар сьвятых Віленскіх мучанікаў разам зь іншымі аднадумцамі выступіць зь ініцыятывай ушанаваньня памяці Мітрапаліта Мэлхісэдэка ў Менску. Была выраблена бронзавая мэмарыяльная дошка зь яго барэльефам (скульптар Ганна Інькова), атрыманы дазвол гарадзкіх уладаў на разьмяшчэньне дошкі на будынку багаслоўскага факультэту Белдзяржунівэрсытэту. (Раней гэты будынак належаў да архірэйскага падворку).




Урачыстае адкрыцьцё мэмарыяльнай дошкі адбылося 17 траўня 2011 года з удзелам Мітрапаліта Менскага і Слуцкага Філарэта. Адслужылі ліцію, было шмат цёплых прамоваў, у тым ліку выступленьне госьці з Масквы – унучатай пляменьніцы Мітрапаліта Мэлхісэдэка Ганны Бадуравай. Пасьля адкрыцьця мэмарыяльнай дошкі прайшлі навукова-асьветніцкія чытаньні, наведнікі таксама маглі пазнаёміцца з выставай розных выданьняў, дакумэнтаў і фотаздымкаў, якія сьведчаць пра жыцьцё і дзейнасць Мітрапаліта Мэлхісэдэка. Кветкі падчас цырымоніі ўсклалі прадстаўнікі маладзёвага брацтва.

Беларусы ў замежжы, глыбока ўдзячныя Мітрапаліту Мэлхісэдэку за такі важны і так своечасова зроблены ім першы крок да самастойнай Беларускай праваслаўнай царквы ў ХХ стагодзьдзі, сваімі ахвяраваньнямі падтрымалі ініцыятыву менскіх адзінаверцаў. Унёскі зрабілі Кансысторыя Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы, царкоўныя рады Парафіяў катэдральнага сабору Сьвятога Кірылы Тураўскага (Бруклін, Нью-Ёрк), царквы Жыровіцкае іконы Божае Маці (Гайленд-парк, Нью Джэрзі), царквы Сьвятога Кірылы Тураўскага (Таронта, Канада), сястрыцтва парафіі Жыровіцкае іконы Божае Маці, асобныя вернікі царквы сьвятой Еўфрасіньні Полацкай (Саўт Рывэр, Нью Джэрзі) ды іншых праваслаўных цэркваў.

Свае звароты з нагоды ўшанаваньня памяці Мітрапаліта Мэлхісэдэка даслалі Уладыка Сьвятаслаў ад БАПЦ і Архіепіскап Украінскай аўтакефальнай праваслаўнай царквы Макарыос.

“Так няхай сьвеціць сьвятло ваша перад людзьмі, каб яны бачылі вашыя добрыя ўчынкі і ўслаўлялі Айца вашага, Які ёсьць у нябёсах” (Мц, 5:16)

*Валянціна Трыгубовіч*

## Зварот да ўдзельнікаў адкрыцьця памятнае шыльды ў гонар Мітрапаліта Мелхісадэка

Браты і сёстры ў Хрысьце !

Зьвяртаюся да прысутных на адкрыцьці памятнае шыльды ў гонар Мітрапаліта Мелхісадэка, і да тых, хто да гэтай падзеі прыклаў свае сілы і веру.

Ягоны пакутны архіпастырскі шлях адбываўся пры бязбожнай уладзе ў часе рэпрэсіяў, але нават у такіх умовах ён супольна са сьвятарствам і пастваю будаваў Беларускае Праваслаўе, якое працягвала жыць і разьвівацца на Эміграцыі пасьля Другое Сусьветнае вайны.

Сьвяценьнік Мелхісадэк быў атручаны ў 1931 годзе ў адным з маскоўскіх храмаў у часе Набажэнства і ёсьць Беларускім навамучанікам, падзяліўшы лёс ярарха Праваслаўнае Царквы ў Польшчы Мітрапаліта Юрыя Ярашэўскага й Патрыярха Грузінскага Кірыёна, забітых раней расійскімі шавіністамі, а таксама – мільёнаў праваслаўных, зьнішчаных расійска-бальшавіцкім рэжымам.

Беларускія праваслаўныя вернікі на Чужыне цяпер супольна з суайчыньнікамі на Бацькаўшчыне сабралі сродкі на ўвякавечнаньне ў сталічным Менску памяці ярарха Беларускае незалежнае Праваслаўнае Царквы, то й прыйдзе час, калі мы супольна будзем маліцца ў Беларусі ў храмах адзінай Беларускай Памеснай Праваслаўнай Царквы, што й вымагаюць Праваслаўныя Каноны, і аб чым марыў наш вялікі сьвяценьнік, мучанік за веру й свой народ

Хрыстос Уваскрос ! Уваскросьне Беларусь і Беларускае Праваслаўе !

*З малітвамі , япіскап Сьвятаслаў.*
*1/14 траўня 2011 лета Божага*
*(памяць Сьв.Макара, Мітрапаліта Віленскага)*
*Катэдральны Сабор Сьвятога Кірылы Тураўскага ў Нью Ёрку, ЗША.*

## Высокапраасьвяшчэнны архіепіскап МАКАРЫОС, кіруючы епіскап Хьюстанскі і Тэхаскі, кіруючы епіскап Паўдзённаамэрыканскі. Украінская Аўтакефальная Праваслаўная Царква

Шаноўныя браты і сёстры Беларускага праваслаўнага брацтва ў гонар сьвятых Віленскіх мучанікаў!

Няхай Вялікі Бог – Бацька, Сын, Сьвяты Дух – дабраславіць вашую высакародную працу: ад ушанаваньня памяці сьвятых Іаана, Антонія і Яўстафія Віленскіх, імёны якіх носіць вашае Брацтва, да мэмарыялізацыі вялікага Мітрапаліта Беларусі Мэлхісэдэка, які паклаў жыцьцё на пастарскае служэньне беларускай Царкве і Народу.

Асабіста я дзякую вам, што вучыце сваіх суродзічаў праўдзівай гісторыі Беларускай Царквы. Я вас дабраслаўляю за вашую ахвярнасьць у імя Праўды, за тое, што не абмяжоўваецеся толькі вывучэньнем мінулага, але й займаецеся аналізам цяперашняй сытуацыі ў Беларусі.

*Сьмірэнны слуга*
*+МАКАРЫОС*
*у 29-ым годзе архіпастырскай службы*

# Парахвіяльнае сьвята Парахвіі Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага ў Нью-Ёрку

У нядзелю 15 травеня галоўны Катэдральны Сабор Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы імя Сьв. Кірылы Тураўскага выглядаў асабліва па сьвяточнаму. Штогод 15 травеня Сабор услаўляе імя беларускага Сьвятога, якое ён з годнасьцю носіць ужо больш за 60 гадоў.

Парахвіяльнае сьвята распачалося ўрачыстаю Архірэйскай Багаслужбаю, у якой узялі ўдзел - кіраўнік БАПЦ Уладыка Сьвятаслаў, які прыехаў дзеля гэтага з Таронта, а таксама госьці - прадстаўнікі Украінскай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы – Архіепіскап Аляксандр з Дэтройту і Архіепіскап Макарыос з Хьюстану (Тэхас). Разам з імі служылі дзеючыя сьвятары - Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага а. Міхайла і Царквы Жыровіцкай Божай Маці ў Нью Брансвіку а. Зіновій, а таксама а. Раман з Украінскай царквы і госьць з Украіны, беларускі сьвятар архімандрыд а. Сэрафім з Севастопалю.



Пад час службы кожны з высокіх царкоўных асобаў зьвярнуўся да вернікаў з казаньнем. Архіепіскап Аляксандр нагадаў пра гісторыю ўтварэньня БАПЦ, чым выявіў сваю добрую абазнанасьць у нашых беларускіх справах, бо ўжо шмат гадоў спрыяе і дапамагае беларусам на чужыне ў ладжаньні царкоўнага жыцьця. Архіепіскап Макарыос эмацыянальна гаварыў пра тое, што ёсьць і павінна быць царква для кожнага верніка, што гэта ёсьць духоўная апора і падтрымка чалавеку ў нялёгкім жыцьці на чужыне і нагадаў пра наш абавязак падтрымліваць дзейнасьць Парахвіі. Уладыка Сьвятаслаў засяродзіў увагу вернікаў на асобе Сьв. Кірылы Тураўскага, чаму мы яго ўслаўляем. Больш падрабязна пра асобу Сьв. Кірылы Тураўскага распавёў архімандрыд а. Сэрафім на добрай беларускай мове.

Адмысловага на сьвята прыехалі госьці з Нью Джэрзы, парахвіяне брацкай Царквы Жыровіцкае іконы Божае Маці (Гайленд-парк), за што ім была выказана шчырая падзяка і падцверджана гатоўнасьць на іх запрашэньне прыехаць праз тыдзень на іхнае Парахвіяльнае сьвята.

Багаслужба завяршылася супольным сьпевам гімну “Магутны Божа”, які сьпявалі аб’яднаны царкоўны хор цэркваў з Нью-Ёрку і Гайленд-парку і прысутныя вернікі.

Пасьля Багаслужбы ў царкоўнаграмадзкай залі адбыўся урачысты сход з прамовамі, прывітаньнямі і віншаваньнямі. Сьвяточны абед падрыхтавала сястрынства Парахвіі. Да самага вечара працягваліся сяброўскія размовы, людзі дзяліліся навінамі, абмяркоўвалі набалелыя пытаньні, цешыліся з магчымасьці пабыць разам з сябрамі і знаёмымі.

*Ганна Сурмач*

*Праз тыдзень, 22 травеня, прайшло Парахвіяльнае сьвята ў Царкве Жыровіцкае іконы Божае Маці ў Гайленд-парк. Поўная інфармацыя пра гэтае сьвята будзе зьмешчаная ў наступным нумары нашай газэты.*



**Уладыка Сьвятаслаў (злева), Архіепіскап Аляксандр (у цэнтры), Архіепіскап Макарыос (справа)**



**Архімандрыд Сэрафім**

## Гадавы справаздачна-выбарчы сход Бруклінскага аддзелу БАЗА ў Нью-Ёрку

Бруклінскі аддзел БАЗА быў заснаваны 6 чэрвеня 2010 году. 21 травеня сябры Аддзелу правялі свой першы пасьля арганізацыйнага гадавы справаздачна –выбарчы сход. У справаздачным дакладзе старшыні Аддзелу сп. Расьціслава Гарошкі гаварылася пра тое, што Аддзел залажылі 21 сябра БАЗА, за прамінулы год колькасьць сяброў павялічылась больш чым у два разы і налічвае зараз 54 чалавекі. Аддзел працаваў актыўна, праводзіліся месячныя сходы, ладзіліся розныя мерапрыемствы, гэта і прываблівала новых сяброў. Скарбнік Сяргей Сарагавец паведаміў пра тое, што ўдалося закласьці добрую фінансавую аснову дзейнасьці Аддзелу, заплачаныя складкі складаюць дастатковы фінансавы падмурак і Аддзел можа ўжо дазволіць сабе пэўныя фінансавыя выдаткі на пашырэньне сваёй дзейнасьці.

Зьмястоўнаю была справаздача культурна-асьветнага сэктару, якую зрабіла Тацьцяна Красоўская. Разам з другой адказнаю асобаю сэктару Алаю Орса Рамана яны рыхтавалі розныя сьвяточныя мерапрыемствы - Калядныя сьвяты, сустрэчу Новага году, культурную праграму сьвяткаваньня 25 Сакавіка, арганізавалі выставу беларускага мастака з Вільні Алега Аблажэя і шмат чаго іншага.

Пасьля справаздачаў адбыліся выбары новага кіраўніцтва Аддзелу. Старшынёю Управы была абраная Тацьцяна Красоўская, ейным заступнікам Валеры Дворнік, скарбнікам Сяргей Сарагавец, сакратаром Аляксандра Лістоўская, адказнаю за культурна-асьветны сэктар – Ала Орса Рамана. Сябрамі Управы сталі таксама Расьціслаў Гарошка і Уладзімір Караткевіч.

На сходзе былі абраныя дэлегаты ад Аддзелу на чарговы Кангрэс БАЗА, які адбываецца раз на два гады і сёлета пройдзе 28 травеня.

*Сакратар сходу*
*Ганна Сурмач*

# BELARUS ART

***У лютаўскім нумары нашай газэты мы распачалі новы праект Belarus Art , аўтарам якога ёсьць маладая мастачка з Нью- Ёрку Ксеня Капытка. Ксеня працягвае працаваць над сваім праектам і прапануе вам больш грунтоўнае знаёмства з беларускім мастаком з Вільні Алегам Аблажэям, чыя выстава ў Нью-Ёрку абудзіла цікавасьць да яго адметнай творчасьці. Пад час гэтай выставы Ксеня і пазнаёмілася з Алегам і ягонае мастацтва зрабіла на маладую мастачку незабыўнае ўражаньне. Ксеня зразумела, што за творамі гэтага мастака стаіць таленавітая, высокаінтэлектуальная асоба і захацела больш грунтоўна асьветліць ягоную постаць для нашых чытачоў. Ксеня прапануе вашай увазе сваё інтэрвію з мастаком і інфармацыю з Вільні.***



**Ксеня Капытка (далей К.К.):** ДЗЕ ВЫ НАРАДЗІЛІСЯ, І ХТО ВАШЫ БАЦЬКІ?

**Алег Аблажэй (Далей А. А.):** На Наваградчыне. Да горада было 15 км -- і туды езьдзілі ў касьцёл, на кірмаш, дзе мой дзед і бацька прадавалі свае няхітрыя тавары: сталярныя вырабы, яйкі, масла, яблыкі. Бацькі былі простымі сялянамі, у якіх бальшавікі адабралі ўсё -- гаспадарку, зямлю, каня, нават гумно і гвалтам загналі ў "калхоз". Дзед, які жыў разам з намі, быў сталяр - залатыя рукі, вядомы на ўсю ваколіцу, хоць і быў непісьменны. Ды й бацькі не мелі магчымасьці вучыцца, скончылі па пару клясаў школы.

Бацька, аднак, шмат чытаў -- на трох мовах: польскай, расейскай і беларускай.

**К.К.:** ХТО ПРЫВІЎ ВАМ ЛЮБОЎ ДА МАСТАЦТВА І КАЛІ ВЫ ПАЧАЛІ МАЛЯВАЦЬ?

**А.А.:** Бадай што ніхто ў вёсцы і слова такога не ведаў, а ў школе не было нават настаўніка малявання. Аднак, я маляваў колькі сябе памятаю -- то крэйдаю пад сталом зьнізу, дзе майго мастацтва ніхто не заўважаў; то крэмзаў на старых падручніках маіх старэйшых братоў. Маляваў не толькі тое, што бачыў навокал, але і тое, пра што марыў -- адразу маляваў ровар, потым - машыны, потым -- жанчын...

Цікава, што буду маляваць гадоў праз 15 - 20 ?

Дзяцінства маё было ў цэлым шчасьлівым, бо яно прыпала на той час,
калі яшчэ існавала беларуская сялянская Атлянтыда, якую назаўсёды праглынуў час. Тады яшчэ ў хаце час ад часу ставілі кросны, асеньнімі вечарамі бурчэў калаўротак, спалі на саламяных сенніках. З рэчкі можна было піць ваду, у ёй вадзіліся стронгі і сьліжы -- рыбы, якіх спрабавалі выцягваць з-пад карчоў проста рукамі! Вечарамі хадзілі да суседзяў "на сяло" -- пагаварыць. бо не было ніякіх тэлевізараў. а радыё было толькі дэтэктарнае, на слухаўкі, і мала ў каго -- а мой бацька меў!

Была добрая школа з добрымі настаўнікамі і добрай бібліятэкай ( якая дагэтуль сьніцца), быў верны сябар, было безнадзейнае першае каханне...

**К.К.:** ДЗЕ І КАЛІ АДБЫЛАСЯ ВАША ПЕРШАЯ ВЫСТАВА, І ДЗЕ ВЫ АТРЫМАЛІ МАСТАЦКУЮ АДУКАЦЫЮ?

**А.А.:** Першая выстава адбылася ў Вільні, ў мастацкім інстытуце, калі я быў на другім курсе. Дагэтуль захаваўся лісток з нечыімі пажаданьнямі не займацца "бабскімі справамі", г.зн. не маляваць строі і жанчын.

А вучыўся я доўга і ўпарта -- яшчэ школьнікам два гады займаўся ў Маскоўскім завочным універсітэце мастацтваў, потым пяць гадоў на мастацка - графічным факультэце Віцебскага пэдінстытута, ды яшчэ шэсьць гадоў у Вільні у мастацкім інстытуце. Усё спадзяваўся, што нехта недзе раскрые нейкую галоўную таямніцу мастацтва, нейкі сакрэт, авалодаўшы якім, станеш самым сапраўдным Мастаком. І толькі пазьней прыйшло разуменне -- якія б не трапляліся добрыя настаўнікі ( а я такіх меў ), усё роўна кожны сур'ёзны мастак па сутнасьці -- самавук, што нібы пчолка зьбірае веды з самых розных крыніцаў. І не трэба спадзявацца. што спаткаеш нейкага аднаго адзінага "гуру", які выведзе цябе да "зіхатлівых вяршыняў". Увогуле, "навучыць" нельга -- можна толькі разьвіць тое, што ў табе закладзена ад нараджэння -- а гэта немагчыма без уласных намаганняў.

**К.К.** ТВОРЧАСЬЦЬ ЯКІХ МАСТАКОЎ ВАМ БЛІЖЭЙ І ХТО ЗРАБІЎ НА ВАС НАЙБОЛЬШЫ ЎПЛЫЎ?

**А.А.:** Гэтаксама, як не было ў мяне "галоўнага" настаўніка, так няма імастака, які ўяўляў бы адзіны ідэал, да якога трэба імкнуцца. І гэта нармальна -- бо калі нехта ўжо зрабіў тое, што намагаешся зрабіць ты -- які сэнс у тваёй працы?

А мастакоў, блізкіх па духу, "братоў па крыві", досыць многа і мяне мала хвалюе, наколькі яны славутыя. Увогуле "вядомасьць" стаіць для мяне на апошнім месцы. У мяне такі крытэрый --нібы ты знайшоў нейкі твор дзесь у лесе і не ведаеш ані хто яго намаляваў, ані калі гэта зроблена -- але калі ты захоплены, калі хочацца глядзець і глядзець, гэты твор становіцца часткай твайго духоўнага сьвету. Ці ж могуць мяне меньш захапляць, напрыклад, творы віцебскага мастака Алеся Мемуса ад таго, што ён практычна нікому не вядомы, хоць у іншы час ды ў іншай краіне ён напэўна быў бы і славуты і багаты!

Люблю мастакоў з цьвёрдым, упэўненым малюнкам і яснай, сьветлай эстэтыкай -- такіх, як Мікалай Фешын, Andres Zorn, Ignacio Zuloaga, Giovanni Boldini, Giovanni Segantini, з амерыканцаў-- John Sargent, Andrew Wyeth, Willam Whitaker, з беларускіх люблю Рыгора Сітніцу, Сяржука Цімохава, Кастуся Качана. А ўплывы? У свой час моцна паўплываў польскі мастак Тадэвуш Кулісевіч -- гэта нагледзеўшыся на ягоныя творы, я пачаў маляваць пяром, перш трысьняговым, потым гусіным... але як жа я далёка адыйшоў ад гэтых уплываў цяпер!.. і сьледу не засталося!

**К.К.:** ЯКУЮ АЦЭНКУ ВЫ ДАЛІ Б СУЧАСНАМУ БЕЛАРУСКАМУ МАСТАЦТВУ І ШТО, НА ВАШУ ДУМКУ, АДБЫВАЕЦЦА Ў ЗАХОДНІМ МАСТАЦТВЕ?

**А.А.:** Беларускае мастацтва ў апошнія дзесяцігоддзі XX ст. і пачатку XXI перажыло найбольшы ўздым за ўсю гісторыю свайго існавання. Прычыны -- яшчэ захавалася моцная клясічная мастацкая школа ( ці не адзіны "плюс" сацрэалізму? ), але ўжо разбурыліся савецкія ідэялягічна - цэнзурныя абмежаваньні; да таго ж, мастакі ці не ўпершыню сталі ўсьведамляць сябе менавіта беларусамі, і ўжо працуюць на карысьць сваёй, а не суседняй культуры, як гэта рабілі Фердынанд Рушчыц, Яўсей Майсеенка ды іншыя майстры.

Але, становішча трывожнае -- з аднаго боку ўсім вядомая неспрыяльная палітычная сітуацыя, дыктатура, якая намагаецца зьнішчыць усё беларускае, з другога, бы камп'ютарны вірус у беларускае мастацтва пад маскай "прагрэсу" пранікаюць ідэі т.зв. "сучаснага мастацтва", задача якога – стварэнне культурных "зомбі" як сярод творцаў, так і сярод спажыўцоў -- людзей, якія няздольны кіравацца сваім уласным здаровым сэнсам і густам.На Захадзе гэта антымастацтва атрымала практычна поўную перамогу -- але гэта перамога " піррава", і паступова прыходзіць разуменне сутнасьці гэтай праявы. І менавіта на Захадзе абуджаецца цікаўнасьць да традыцыйнага мастацтва, у ЗША ўтварыўся Цэнтр Аднаўлення мастацтва ( Art Renewal Center ), дзейнасьць якога вельмі актыўная і які адкрыта ставіць задачу "змагацца з хімерай "сучаснага мастацтва". Прдстаўнікі гэтага "мастацтва" яшчэ ўсё лічаць, што яны прыйшлі навечна, як гэта лічылі колісь бальшавікі, і не ўсьведамляюць, што яны ўсяго толькі спараджэнне утапічных ідэй XX стагоддзя, і ў новым не маюць ніякіх перспектываў. І цяпер пытанне такое -- ці пасьпее беларускае тадыцыйнае мастацтва дачакацца перамогі "другога фронту", ці загіне пад націскам шарлатанаў хатняй гадоўлі. На чыім баку змагацца -- справа выбару кожнага мастака.

"Актуальнае мастацтва" -- такі ж вораг мастацтва сапраўднага, якім быў у мінулым бальшавізм. Абодва дэкляравалі свабоду і абодва насамрэч нясуць гвалт і дыктатуру, вынішчэнне ўсіх, хто адважваецца быць незалежным.

**К.К.:** КАЛІ ВЫ ПАЧАЛІ СВАЮ ЛІТАРАТУРНУЮ ДЗЕЙНАСЬЦЬ? ЯК ЗЬВЯЗАНЫ ВАША МАСТАЦТВА І ЛІТАРАТУРА?

**А.А.:** Першую казку я напісаў ( і спрабаваў ілюстраваць ) яшчэ ў дзяцінстве.

На дзіва, гэты досыць тоўсты сшытак захаваўся -- але я не памятаю ані калі яе пісаў, ані чаму яна засталася абарванай на паўслове. Мабыць, проста паленаваўся пісаць далей!

Наступныя ж напісаліся значна пазьней -- я меў ужо тады гадоў 30 з добрым гакам. А было так:

У адным маскоўскім выдавецтве мне замовілі ілюстрацыі да швэдзкіх казак. Працаваў я ўсур'ёз, малюнкі былі прыняты "на ўра", і тут жа замовілі ілюстрацыі да новай кнігі – казак нейкай мадам д'Олнуа. Казкі мне не спадабаліся -- банальныя, нудныя, тым не меньш маляваць усіх гэтых рыцараў і прынцэс было цікава. Працаваў ці не паўгода, і з вялікім запалам. І тут з Масквы паведамілі, што першую кнігу выдаваць не будуць -- потым высьветлілася, што мяне проста ашукалі, каб не заплаціць. На справе кніга выйшла, я нават яе маю.

***(Заканчэньне на 9-й бачыне)***

# BELARUS ART

*(Заканчэньне з 8-й бачыны)*

Што ж было рабіць з малюнкамі да новай? Паехаў я ў Варшаву на кніжны кірмаш, прапаноўваў розным выдавецтвам, урэшце аднаму малюнкі спадабаліся, але іх непакоілі аўтарскія правы на сам тэкст. Бо хто такая гэта "мадам" не ўдалося высьветліць нават у амбасадзе Францыі! І тады я прапанаваў напісаць да сваіх ілюстрацый новыя, свае казкі! На тым і пагадзіліся, і за лета я напісаў сем казак аб каралеўнах ( па - польску. бо выдавецтва было польскае ). Хіба што гэта адзіны выпадак, калі да адных і тых жа ілюстрацый існуюць два зусім розныя тэксты! Дарэчы, нядаўна я ўсё ж знайшоў у інтэрнэце гэтую мадам д'Олнуа -- і пераканаўся, што мае казкі лепшыя, бо горш, чым "мадам", напісаць складана...

Так і пайшло -- з пісаннем лепш, а вось з выданнем горш. Напісана шмат, а надрукавана -- мала.Дзякуй "Беларусу" за дапамогу ў прарыванні ізаляцыі!

І ў сваіх літаратурных спробах, і ў мастацтве я намагаюся стварыць той самы сьвет -- сьвет, у якім правіць баль Прыгажосьць.

**К. К.:** ХТО ВАШ ГЛЯДАЧ І ХТО ЧЫТАЧ?

**А. А.:** Калі ўсё жыццё займаешся мастацтвам, непазьбежна ўзьнікае пытанне -- а навошта яно патрэбна ўвогуле? Для мяне крытэрый ацэнкі мастацтва вельмі просты -- дапамагае яно мне жыць, ці не? Бо жыццё было, ёсьць і будзе рэч складаная і цяжкая, ды ўвогуле канчаецца сумна. І каштоўна тое, што нясе --няхай ненадоўга! -- сьвятло і радасьць, надзею і суцяшэнне. І сам намагаюся ствараць штось падобнае. Існуе стэрэатып, што сапраўднае, "высокае" мастацтва можа быць толькі трагічнае, панурае і песімістычнае -- зрэшты, раней я і сам так лічыў. А цяпер я ўпэўнены, што радасьць--рэч не меньш высокародная ў мастацтве, чым сум. І чым больш цяжкое тваё рэальнае жыццё, тым больш каляровы і радасны сьвет ты павінен ствараць сам -- і сабе дапаможаш, і таму, хто гэта будзе глядзець. Пагэтаму "мой" і чытач, і глядач -- той, хто чакае ад мастацтва ціхай сьветлай радасьці.

**К. К.:** ЯКІЯ ЯКАСЬЦІ МУСІЦЬ МЕЦЬ СУЧАСНЫ МАСТАК, КАБ БЫЦЬ ПАСЬПЯХОВЫМ?

**А. А.:** Гледзячы, што лічыць посьпехам -- калі гэта чыста фінансавы посьпех, то патрэбна тое самае, што любому бізнэсоўцу: адчуванне кан'юнктуры, уменьне рэклямаваць сябе і сваю прадукцыю. Каб дасягнуць посьпеху ў "сучасным мастацтве", трэба трэніраваць локці. У традыцыйным мастацтве посьпех -- гэта дасканаласьць, для гэтага трэба разьвіваць інтэлект,"ставіць" вока і трэніраваць пальцы.

Я перакананы, што маляваннем павінны займацца толькі тыя, хто не можа рабіць нічога іншага. Калі асоба выбірае гэты шлях толькі з разьліку на будучую славу, вядомасьць, грошы -- то ёй трэба ўсьведамляць, што гэта ўсё зусім не гарантавана, незалежна ад меры дадзенага табе таленту. Гэта хутчэй выйгрыш у лятарэі, чым заслужаная ўзнагарода.

А вось калі найвышэйшую асалоду дастаўляе сам працэс, калі ты бачыш, што доўгае і ўпартае самаўдасканаленне прынесла плады, калі ты здольны зрабіць тое, чаго не можа ніхто іншы на сьвеце-- гэта найвялікшая ўзнагарода для мастака. А ўсе астатнія -- грошы, слава, як бы яны ні былі патрэбнымі і жаданымі, -- на другім месцы.

Зрэшты, пра ўсё гэта найлепей напісаў Гоголь у аповесьці "Партрэт". Асноўная думка гэтага твора -- толькі заслужаная слава прыносіць радасьць.,

**К. К. :** ЯК ВЫ АПЫНУЛІСЯ Ў ЛЕТУВЕ?

**А. А.:** Вучыўся, закахаўся, застаўся.

**К. К. :** ЦІ ЛІЧАЦЬ ВАС ЛЕТУВІСКІЯ МАСТАКІ СВАІМ МАСТАКОМ?

**А. А.:** Дарэчы, я лічу няправільным ужыванне ў беларускай мове словаў "Летува", "летувісы". Разумею, што гэта робіцца для таго, каб адрозьніць сучасную Літву ад летапіснай -- але ж вось палякі спакойна ўжываюць слова Litwa, цудоўна разумеючы, што цяперашняя Літва -- зуім не тая, пра якую Міцкевіч пісаў "Litwo, ojczyzno moja!" Да таго ж па-літоўску lietuvis -- мужчына, а жанчына -- lietuvė. І калі беларус піша "летувіска" -- то гэта хто, жанчына мужчынскага роду? Яшчэ спасылаюцца, што саманазоў Літвы --Lietuva. То мо трэба пісаць "Дойчлянд", дзе жывуць "дойчы"?

А "сваім" мастаком літоўцы мяне не лічаць -- пра што сьведчаць дзьве дарэмныя спробы ўступлення ў мясцовы Саюз мастакоў, пара забароненых выстаў...Але гэта зусім не з прычыны нейкай нацыянальнай дыскрымінацыі -- несупадзенне эстэтычных поглядаў. Неяк мне падумалася -- калі б у Вільні высадзіліся марсіяне, мне лягчэй было б з імі паразумецца, чым з літоўскімі мастакамі.

Праўда, і ў гэтым асяроддзі я маю можа якіх двух з паловай аднадумцаў...

**К. К.:** ШТО ВАС ЛУЧЫЦЬ З РАДЗІМАЮ?

**А. А.:** Успаміны. Інтэрнэт. Сябры -- на жаль, у асноўным былыя, таму што бываю там рэдка, а сяброўства без сталых кантактаў, як непаліваная града, засыхае і прыходзіць у заняпад.

**К. К.:** ЯКОЕ МЕСЦА Ў ЖЫЦЦІ СУЧАСНАГА БЕЛАРУСА МУСІЦЬ ЗАЙМАЦЬ МАСТАЦТВА? ЧАМУ?

**А. А.:** "Мусіць" і "займае" -- зусім розныя рэчы. А павінна было б займаць вельмі істотнае месца -- як духоўная апора, як прастора, вольная ад дыктатуры. Яшчэ ж не садзяць у турму за наведванне выставаў ці музэяў.

Але ж няма "беларуса" ўвогуле, ёсьць канкрэтныя людзі са сваімі рознымі патрэбамі.

На жаль, большасьць задавальняе расейская "папса". Але сапраўднае мастацтва ва ўсе часы было рэччу элітарнай.

**К. К.:** ЯКІ ВАШ ЛЮБІМЫ ТВОР?

**А. А.** Такіх многа, усіх не пералічыць. Напрыклад Le Chant D'Amour Берн - Джонса, які, нарэшце, удалося ўбачыць у арыгінале ў музэі Метраполітэн у Нью - Ёрку.

**К. К.:** ЯК НАРАДЖАЕЦЦА ТВОР?

**А. А.:** Ідэя -- ці то карціны, ці казкі, ці верша, -- заўсёды прыходзіць нечакана. Нічога нельга "выседзець" -- будзе мёртванароджанае.

Найцяжэй, калі доўгі час не прыходзіць ніякая думка, ніякая ідэя.

Калі ж такое шчасьце здараецца, пачынаецца праца. Залатая пара -- першая палова дня, пакуль ясная галава.Ні вечарам, ні ноччу працаваць не магу.

Што атрымліваецца -- можна ўбачыць на picasaweb.google.com/aablazej

**К. К.:** ЯКІЯ РЭЧЫ ЗВЫЧАЙНА ДАЮЦЬ НАТХНЕННЕ?

**А. А.:** Прыгожыя жанчыны -- або цікава апранутыя, або распранутыя зусім.

**К. К.:** ЦІ МАЕЦЕ ЯКІЯ ХОББІ ДЛЯ ВОЛЬНАГА ЧАСУ?

**А. А.:** Каб праветрыць мазгі -- доўгія прагулкі на ровары; каб іх прасьвятліць і падзарадзіць -- слухаю музыку. Маю неблагую фанатэку -- каля 1500 дыскаў. Музыка самая розная -- ад Моцарта і джазу да народнай з Марока...

**К. К.:** ДЫК ЦІ ВЫРАТУЕ ПРЫГАЖОСЬЦЬ СЬВЕТ?

**А. А.:** А яна яго ратуе ад пачатку існавання. Проста цяпер трэба ратаваць саму Прыгажосьць!

.

**Aleh Ablažej:**

**http://picasaweb.google.com/aablazej**

**http://tigercogito.blogspot.com/**

# Беларускі вольны тэатр

## The 56th Annual OBIES Awards

Сенсацыяй завяршыліся гастролі ў Нью-Ёрку Беларускага Вольнага тэатра. За свае пасьпяховыя выступленьні на сцэне Нью-Ёркскага тэатру LaMama калектыў тэатра атрымаў адну з галоўных амэрыканскіх тэатральных узнагародаў-- OBIE Award.Прыз OBIE заснаваны часопісам The Vilage Voice.

Самі артысты тэатру на гэты час ужо пакінулі Нью-Ёрк і прыз для іх прынялі кіраўнікі тэатраў LaMama и Public Theatre. Ад імя калектыву Беларускага Вольнага тэатра словы ўдзячнасьці выказаў прадусар фестываю Under the Radar Марк Рассэл.

Ад гэтага часу ўсе афішы Беларускага Вольнага тэатру пад час выступаў у Амэрыцы будзе ўпрыгожваць надпіс “Уладальнікі прыза OBIE-2011".

*22.05.2011*



# Віншуем з юбілеем Беларускую бібліятэку імя Францішка Скарыны ў Лёндане

15 траўня споўнілася 40 гадоў Беларускай бібліятэцы імя Францішка Скарыны ў Лёндане.

Афіцыйнае адкрыцьцё бібліятэкі адбылося ў 1971-ым годзе. На той час яна мела 6,500 тамоў бібліятэкі Беларускай каталіцкай місіі ў Ангельшчыне (заснаваная ў 1948-ым годзе, у 1958-ым пераназваная ў Bibliotheca Alboruthena). Першапачатковую калекцыю складалі тамы Беларускай каталіцкай місіі й кнігі, перададзеныя бібліятэцы трыма грэка-каталіцкімі сьвятарамі - Чэславам Сіповічам, Лявом Гарошкам і Аляксандрам Надсанам, сёньняшнім дырэктарам Бібліятэкі.



*Беларуская бібліятэка звонку*

Скарынаўская бібліятэка з'яўляецца найбуйнейшым сховішчам беларускіх і беларусазнаўчых выданняў па-за межамі Беларусі. Велічыня калекцыі - прыкладна 30 000 тамоў, сярод якіх болей за 20 былі надрукаваныя перад 1800-ым годам. Найбольш грунтоўна прадстаўленыя гісторыя, літаратура, мова, рэлігія, нацыянальны й рэгіянальны фальклёр, бібліяграфія, музыка й мастацтва. Даволі поўна прадстаўлена эміграцыйная проза і паэзія ў асобных выданьнях і пэрыёдыцы.




*Шыльда*

Калекцыя пэрыёдыкі налічвае болей за 200 назоваў, сярод іх ёсьць выдадзеныя да 1939 году.

Картаграфічная калекцыя зьмяшчае болей за 100 мапаў з датамі выданьня ад шаснаццатага стагодзьдзя. Беларуская музыка грунтоўна прадстаўленая калекцыяй кружэлак; запісы на касэтах або CD сустракаюцца радзей й зьмяшчаюць збольшага фольк, рок ды клясычную музыку.

У музеі пры бібліятэцы сабрана цікавая калекцыя старажытных манетаў, мапаў, паштовых марак, мастацкіх і этнаграфічных вырабаў, сярод якіх – знакамітыя слуцкія паясы.

Увесь час сваёй дзейнасьці Бібліятэка была не толькі месцам зьбірання і захоўвання беларусістыкі, але і яе папулярызатарам і пашыральнікам. У бібліятэцы ладзяцца міжнародныя сэмінары й канфэрэнцыі.

Ад імя газэты "Беларус" віншуем Скарынаўку з юбілеем і жадаем, каб яна і надалей заставалася інтэлектуальным цэнтрам беларускага замежжа, захавальніцаю нашых нацыянальных скарбаў па-за межамі Бацькаўшчыны.

Высокашанаванаму дырэктару а. Аляксандру Надсану выказваем шчырую падзяку за ягоную ахвярную працу і зычым яму доўгага плённага жыцьця, бо менавіта ён ёсьць душою Бібліятэкі, яе галоўнай апораю і апекуном.



*Чытальная заля*

# Беларускія кампаніі пад санкцыямі за супрацоўніцтва з Іранам

Злучаныя Штаты ўвялі санкцыі супраць замежных кампаніяў, якія супрацоўнічаюць з Іранам і Паўночнай Карэяй.

Намесьнік дзяржсакратара ЗША Джэймс Стэйнбэрг заявіў, што мэта санкцыяў – не дазволіць Ірану разьвіваць сваю ядзерную праграму, якая, як абаўляюцца ў Вашынгтоне, накіраваная на вытворчасьць ядзернай зброі. Уведзеныя санкцыі супраць 16 асобаў і кампаній з Беларусі, Кітаю, Паўночнай Карэі, Сірыі і Вэнэсуэлы за продаж Ірану, Паўночнай Карэі і Сірыі тэхналёгіяў, зьвязаных з вытворчасьцю ядзернай, хімічнай і біялягічнай зброі і балістычных ракетных сыстэм.

"Гэты сьпіс ўключае ў сябе тры кітайскія кампаніі, дзьве беларускія, пяць іранскіх, адну паўночнакарэйскую, дзьве сірыйскія і адну вэнэсуэльскую кампанію. Яны пакараныя за продаж Паўночнай Карэі, Сірыі, Ірану ці набыцьцё з гэтых краін тавараў, паслуг або тэхналёгій, якія рэгулююцца рознымі рэжымамі экспартнага кантролю ці могуць спрыяць стварэньню зброі масавага зьнішчэньня альбо балістычных ракетных сыстэм", - заявіў Джэймс Стэйнбэрг.



*Джэймс Стэйнберг*

Фірмы і асобы, якія трапілі пад гэтыя санкцыі, будуць пазбаўленыя магчымасьці атрымліваць амэрыканскія ўрадавыя кантракты, дапамогу ад ЗША, яны ня могуць купляць амэрыканскае ўзбраеньне і патэнты на яго на працягу двух гадоў.

У сьпісе – 2 беларускія прадпрыемствы: "Беларускае оптыка-механічнае аб'яднаньне" (БелОМА) і "Белтэхэкспарт". "БелОМА" выпускае высокатэхналягічнае абсталяваньне, якое выкарыстоўваецца у сыстэмах супрацьракетнай абароны. "Белтэхэкспарт" – камэрцыйная структура, праз якую робіцца значная частка беларускага экспарту зброі.

У сакавіку сёлета ЗША ўжо ўводзілі санкцыі супраць беларускай дзяржаўнай энэргетычнай кампаніі "Беларуснафта" за кантракт беларускага прадпрыемства з іранскай кампаніяй "NaftIran Intertrade". Адміністрацыя Абамы ўвяла санкцыі супраць "Беларуснафты" за $ 500 млн. інвэстыцый у іранскую фірму, якая абвінавачваецца ва ўдзеле ў ядзернай праграме Ірану.

*24.05.2011*

# Уладзімір Шыманец

## (1911-1977)



15 траўня споўнілася 100 гадоў ад дня нараджэньня беларускага мастака і грамадзка-палітычнага дзеяча Уладзіміра Шыманца.

Нарадзіўся мастак у 1911 г. у Рызе, дзе працаваў бацька. У 1919 годзе вярнуўся на Радзіму ў вёску Засулле каля Стоўбцаў, потым жыў у дзеда ў Негарэлым. Мастацтву вучыўся у школе. У 1940 годзе, пасьля 9 месяцаў савецкай турмы ў Баранавічах, быў засуджаны на 5 гадоў высылкі ў Сібір. Пачатак вайны не дазволіў бальшавікам выканаць прысуд. Але, гэта змусіла маладую сям'ю эміграваць на Захад у 1944 годзе. Прыпыніліся на некаторы час ў Даніі, а потым выехалі ў Францыю, дзе Уладзімір Шыманец пражыў усё сваё астатняе жыцьцё.

Хаця Уладзімір Шыманец зрабіў шмат іншага за тыя 66 гадоў, якія правёў на гэтай зямлі, мастацтва было заўсёды прысутным ў ягоным жыцьці. Як таленавіты мастак, ён быў адзначаны на розных францускіх выставах. Маляваў пераважна на беларускія тэмы. Намаляваў каля 200 карцін. Выстаўляўся ў Парыжы, Версалі, Нью-Йорку. Тварыў сам і глыбока вывучаў творчасьць іншых, пісаў пра беларускіх мастакоў на эміграцыі - Віктара Жаўняровіча, Міхася Навумовіча, Міхася Саўкі і многіх мастакоў з Беларусі, якія сталіся душою французскай мастацкай школы "Ecole de Paris". Напісаў працу «Мастакі з Беларусі — школа Парыжа» (Шагал, Суцін, Сэгаль). Не было тае галерэі ў Парыжы, якую б Уладзімір Шыманец не наведаў.

Але, для тых, хто яго ведаў блізка, Уладзімір Шыманец найперш быў нястомным дзеячам беларускай дыяспары. Выконваў напрыканцы 40-х гадоў функцыю міністра фінансаў ва Урадзе БНР, быў ва Управе Сусьветнага Абьяднаньня Беларускай Эміграцыі, заклаў і выдаваў беларускую газэту ў Парыжы "За волю", пісаў пра Беларусь у грузінскай газэце "LA NATION GEORGIENNE".

Пад Парыжам У. Шыманец пабудаваў уласнымі рукамі дом для сваёй сям'і. Па сяброўску рабіў праекты дамоў іншым суродзічам, якія хацелі будавацца ў Францыі. Уважаў гэта сваім вялікім дасягненьнем.

У Даніі пасьля вайны бараніў беларускіх уцекачоў ад прымусовага вяртаньня ў Савецкі Саюз і спрычыніўся да арганізацыі выезду ўсяе беларускае грамады з Даніі ў Францыю.

Пераклаў сэрыю казкаў Андэрсэна з дацкай на беларускую мову, пачаў складаць дацка-беларускі слоўнік. Быў цудоўным прамоўцам і настаўнікам матэматыкі і фізікі, меў энцыкляпедычныя веды ў многіх галінах культуры, сусьветнай і беларускай. Цікавіўся эканомікаю, аграрнай палітыкаю, лесаводствам, усім, што магло быць карысным будучаму разьвіцьцю Беларусі.

Перажыўшы цяжкую траўму выгнаньня, Уладзімір Шыманец выхаваў двое дзяцей у беларускай мове і беларускім духу, перадаў ім сваю любоў да Беларусі і ўсяго беларускага. Сыну Лявону пакінуў у спадчыну ня толькі вялікія тэхнічныя здольнасьці – Лявон патэнтаваў за сваё жыцьцё больш ста вынаходніцтваў, але і сваю любоў да мастацтва. Мастацкія здольнасьці бацькі пераняла і дачка Івонка, якая скончыла Сарбонну, ведае 5 моваў і сёньня вядомая беларускаму сьвету, як Івонка Сурвілла – ад 1997 году старшыня Рады БНР. Свае сілы і здольнасьці яна скіравала больш на грамадзка-палітычную дзейнасьць. Івонка таксама выхавала дзвюх сваіх дачок у беларускім духу, адну з іх Паўлінку Сурвіллу добра ведаюць у Беларусі, як дасьледчыцу сучаснай беларускай рокавай музыкі. Яна – прафэсарка амэрыканскага універсытэту. Дачка Лявона - Віржыні Шыманец, мастацтвазнаўца, абараніла свой дактарат у Сарбоне на тэму беларускага тэатру. Адным словам, моцныя беларускія карані Уладзіміра Шыманца далі моцныя парасткі, якія сілкуе беларуская глеба.

Сп. Шыманец, па сёньняшніх мерках, пражыў нядоўгі век, але ўсім пражытым і зробленым пакінуў адметны, сьветлы сьлед ў беларускай гісторыі і культуры

*Ганна Сурмач*

# Знойдзена магіла Тодара Вярнікоўскага

12 траўня падчас чарговай экспедыцыі прадстаўнікоў Віленскага беларускага таварыства палітычных вязняў і ссыльных на праваслаўныя Свята-Эўфрасінеўскія могілкі ў Вільні было выяўлена раней мала каму вядомае месца пахаваньня беларускага палітычнага і грамадска-культурнага дзеяча Тодара Вярнікоўскага (Вернікоўскага).

Тодар Міхайлавіч Вярнікоўскі нарадзіўся ў 1861 годзе, у в. Дудзічы Ігуменьскага павета, у сям'і псаломшчыка.

Працаваў у Сялянскім пазямельным банку, Міністэрстве земляробства і дзяржаўных маёмасцей Расейскай імперыі. Пасля выхаду ў адстаўку жыў у Мінску, быў абраны ў гарадскую думу.

Да беларускага нацыянальна-адраджэнскага руху далучыўся пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 г.

У снежні 1917 – красавіку 1918 гг. Быў скарбнікам Менскага беларускага народнага прадстаўніцтва, у красавіку 1918 г. кааптаваны ў Раду Беларускай Народнай Рэспублікі. У першым урадзе БНР на чале з Раманам Скірмунтам быў дзяржаўным скарбнікам, ва ўрадзе Янкі Серады – народным сакратаром гандлю і прамысловасці. У склад ураду БНР, які ўзначаліў Антон Луцкевіч, не ўвайшоў, бо не падзяляў сацыялістычных поглядаў апошняга.

У снежні 1918 г. разам з сябрамі Рады БНР і ўрада А. Луцкевіча пераехаў у Вільню, пасля – у Гародню.

Са жніўня 1919 г. працаваў у Часовым Беларускім нацыянальным камітэце ў Мінску, выконваў абавязкі дарадчыка і адказнага за ўзаемакантакты з Царкоўнай радай Менскай праваслаўнай епархіі.

З 1921 года жыў у Вільні. Браў актыўны ўдзел у дзейнасці заходнебеларускіх палітычных, грамадска-культурных і рэлігійных арганізацый, узначальваў Беларускі праваслаўны камітэт па беларусізацыі Царквы.

Памёр 14 ліпеня 1938 года. Пахаваны на праваслаўных Свята-Эўфрасінеўскіх могілках у Вільні.

*Валянцін Стэх*
*Старшыня Віленскага беларускага таварыства палітычных вязняў і ссыльных*
*22.05.2011*

## Сьв. памяці а. Міхась Страпко

***28 кастрычніка 1918 – 25 красавіка 2011***



25 красавіка 2011 г. пайшоў з жыцця Мітрафорны Пратаярэй а. Міхаіл Страпко, былы настаяцель (з 1982 да 1999 г.г.) Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнае царквы Святой Жыровіцкай Іконы Божае Маці ў Кліўлендзе (штат Агаё, ЗША).

**Вечная памяць !**

## Сьв. памяці Веры Радэк

***28 кастрычніка 1918 – 25 красавіка 2011***

Рада Парафіі Сьвятога Кірылы Тураўскага выказвае глыбокае спачуваньне спадару Барысу Кірку ў сувязі з адыходам з зямнога жыцьця спадарыні Веры Радэк (дзявочае прозьвішча Прылепава) – адной з самых старэйшых і паважаных сябраў нашае Парафіі.

Вера нарадзілася 29 лютага 1924 году ў Магілёве. Волею лёсу аказалася ў Канадзе. Нягледзячы на тое, што далёка жыла ад нашае царквы, вельмі часта прыяжджала разам з Барысам на Багаслужбы ў Таронта. Цудоўная, ветлівая, прыгожая беларуская жанчына радзіла сына Генры, дачок Джанэт і Тэрэзу. Мае пяць унукаў і шэсьць праўнукаў.

22 красавіка 2011 году ціха адыйшла ў вечнасьць у шпіталі Ніягары. Ёй было 87 гадоў. У памяць Веры спадар Кірка пасадзіў бэз ля будынку царквы.

Замест кветак на магілу спадарыні Радэк парафія ахвярue 100 даляраў на выданьне газеты "Беларус".

*Рада Парафіі сьвятога Кірылы Тураўскага.*
*Таронта, 2011*

# Каляндар памятных датаў на чэрвень 2011 году

**1 чэрвеня** – Міжнародны дзень абароны дзяцей.

**4 чэрвеня** – 25 гадоў таму, у 1986 годзе, памерла паэтка Канстанцыя Буйла.

**5 чэрвеня** – Міжнародны дзень аховы навакольнага асяроддзя.

**6 чэрвеня** – 170 гадоў таму, у 1841 годзе, нарадзілася Эліза Ажэшка, польская пісьменьніца, жыла ў Гародні.

**7 чэрвеня** – 35 гадоў таму, у 1976 годзе, памёр Міхась Машара, пісьменьнік.

**9 чэрвеня** – 130 гадоў таму, у 1881 годзе, нарадзіўся Іван Луцкевіч, грамадзка-палітычны дзеяч, археоляг, этнограф, публіцыст.

**12 чэрвеня** – 100 гадоў таму, у 1911 годзе, нарадзіўся Мікола Ганькоў, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША.

**14 чэрвеня** – 115 гадоў таму, ў 1896 годзе, нарадзіўся Пётра Татарыновіч, сьвятар, грамадзка-палітычны дзеяч, літаратар, дзеяч эміграцыі ў Італіі і Ватыкане.

**18 чэрвеня** – 100 гадоў таму, у 1911 годзе, нарадзіўся Аляксандр Шыдлоўскі, кампазітар.

**19 чэрвеня** – 70 гадоў таму, у 1941 годзе, у Бэрліне быў створаны Беларускі Нацыянальны Цэнтр.

**22 чэрвеня** – 70 гадоў таму, у 1941 годзе, гітлераўская Нямеччына распачала вайну з Савецкім Саюзам, нямецкія войскі уступілі на беларускую зямлю.

**115 гадоў таму, у 1896** годзе, нарадзіўся Браніслаў Туронак, культурны і грамадзкі дзеяч, публіцыст.

**23 чэрвеня** – 65 гадоў таму, у 1946 годзе, ў Рэгэнсбургу было заснавана Крывіцкае Навуковае Таварыства імя Фр. Скарыны.

**29 чэрвеня** – 115 гадоў таму, у 1896 годзе, нарадзіўся Уладыслаў Казлоўскі, грамадзка-палітычыны дзеяч, паэт, публіцыст, выдавец.

## Другое нараджэньне

Ёсьць сярод нас людзі, лёс якіх пазначны адметнасьцю быць двойчы народжаным. Сваё другое нараджэньне сьвяткавала 6 траўня сяброўка Бруклінскага аддзелу БАЗА Аляксандра Лістоўская. Мы ўсе называем яе ласкава Шураю, Шурачкаю. Гэта не быў юбілейны, а звычайны чарговы дзень народзінаў, але першы пасьля таго, як сп. Шура выжыла пасьля цяжкой хваробы, пад час якой дактары давалі ёй толькі адзін працэнт шансу на жыцьцё. Але, жанчына выжыла, перамагла сьмерць і вярнулася да нас праз доўгія месяцы ляжаньня ў шпіталі і лячэньня дома. Сёньня яна кажа, што выжыла таму, што адчувала падтрымку сям'і і сяброў, а таксама апеку і дапамогу лекараў. Шура амаль кожную нядзелю прыходзіць ў беларускую царкву на Атлантык Авэню ў Брукліне, каб памаліцца і падзякаваць Богу за ўратаваньне ды шмат дапамагае сястрынству ў розных гаспадарскіх справах.

На сьвяткаваньне, якое адбывалася ў грамадзкай залі пры Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага, прыйшло не менш людзей, чым на некаторыя грамадзкія імпрэзы. Калегі па працы і па грамадзкай дзейнасьці, сябры і родныя цёпла віталі Шуру і зычылі, найперш, ёй добрага здароўя і доўгага жыцьцёвага шляху. Адчувалася, што гаварылася гэта ад душы, што Шуру любяць і паважаюць усе тыя, з кім зьвязаў яе лёс.

Дабрасардэчны чалавек, клапатлівая гаспадыня і грамадзкая актывістка ў беларускім жыцьці ў Нью-Ёрку – такою мы ўсе ведаем Шуру Лістоўскую. Я асабіста першы раз пабачыла яе на нашым беларускім сьвяце ў цудоўным беларускім нацыянальным строі, вышываным ў блакітных колерах. Яна ўпрыгожвала нашу грамаду і многія стараліся сфатаграфавацца з калярытнай беларусачкаю.

У Амэрыку Шура Лістоўская прыехала ў 1998 годзе, зьведала ўсе цяжкасьці эміграцыйнага жыцьця, шмат працавала і працуе да сёньня. Яна прафесійная швачка, як аказалася гэтае майстэрства вельмі запатрабаванае і ў Нью-Ёрку.

Спатрэбілася яе ўменьне і дзеля нашых беларускіх справаў. Як успамінаў на вечарыне сп. Зянон Пазьняк у сваім вітальным слове, Шура пашыла дзесяткі бел-чырвона-белых сьцягоў, якія былі патрэбныя для дэманстрацыяў і пікетаў, што арганізоўваюць час ад часу беларусы Нью-Ёрку.

На такіх адданых, працавітых, адказных людзях трымаецца беларускае жыцьцё на эміграцыі. Шура Лістоўская не забылася на свой радавод, прыналежнасьць да беларускага асяродку дае ёй сілу і моц духу адолець жыцьцёвыя нягоды, каб вярнуцца ізноў ў сваю грамаду і быць сярод блізкіх па духу людзей. Жадаем нашай цудоўнай жанчыне шмат, шмат, шмат гадоў шчасьлівага жыцьця!

*Ганна Сурмач*

## Беларусы Іркуцку сьвяткуюць юбілей

31 травеня спаўняецца 15 гадоў Іркуцкаму Таварыству Беларускай культуры імя Я. Чэрскага. Як паведаміў нам старшыня Таварыства Алег Рудакоў на сёньня ІТБК мае 12 філіялаў у Іркуцкай вобласьці і вядзе працу па дваццаці асноўных накірунках. У Прыбайкальлі жыве больш 50 тыс. беларусаў. Праца Таварыства скіраваная на тое, каб стымуляваць беларусаў адраджаць сваю культуру і народныя беларускія традыцыі. Пры Таварыстве дзейнічаюць 5 творчых фальклёрных і танцавальных калектываў, а ў цэлым па вобласьці - 19.

У сувязі з юбілеем ІТБК ладзіць абласны фестываль-конкурс "Гучы гоман беларускі". На фестываль зьедуцца калектывы і выканаўцы з усёй Іркуцкай вобласьці. Таксама будуць госьці з Менску, Новасібірску і Цюмені.

Ад імя Рэдакцыі "Беларуса" віншуем іркуцкіх беларусаў са сьвятам і жадаем надалей так годна прапагандаваць беларускую культуру ў Прыбайкальлі.

## На выданьне "Беларуса" ахвяравалі:

| | |
|---|---|
| М, Азарка | $100 |
| *( у памяць Янкі Азаркі)* | |
| М. Ганько | $ 100 |
| А. Грошаў | $ 50 |
| І.Коган | $ 50 |
| В. Кушель | $ 200 |
| В. Лістоўскі | $ 30 |
| Б. Паук | $ 50 |
| А. Пранцевіч | $ 50 |
| Парафія Св.Кірылы Тураўскага *(Таронта,Канада) заместа кветак на магілу Веры Радзк* | $ 100 |
| Л. Рагуля | $ 100 |
| К. Романо | $ 100 |
| І. Сурвілла | $ 150 |
| В. Смелава | $ 50 |
| Д. Шыбут | $ 50 |

**Выказваем шчырую падзяку ўсім ахвярадаўцам!**

**БЕЛАРУС**
*Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце*
Выдае:
*Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне*

**BIELARUS**
*Belarusan Newspaper in the Free World*
Published by
*Belarusan American Ass'n, Inc.*

**Склад Рэдакцыі:**
Ганна Сурмач – адказны рэдактар (surmacova@gmail.com)
Андрусь Падлескі – адказны за кампутарную вёрстку
Таня Красоўская – скарбнік, арганізатар падпіскі (premiere718@yahoo.com)
Галіна Падлеская – рэдактарка дзіцячай старонкі galinapodles@hotmail.com
Валеры Дворнік - адказны за друк
Натальля Старавойтава - адказная за рассылку газэты

Артыкулы падпісаныя прозьвішчамі ці ініцыяламі, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не пагаджаецца.

**Адрасы Рэдакцыі:**
Паштовы адрас:
***Hazeta Bielarus***
***166-34 Gothic Drive***
***Jamaica, NY 11432***
***USA***

**Электронны адрас (email):**
**bielarus@bazahq.org**

*Адказнасьць за зьмест рэклямы нясе рэклямадаўца.*